# Голас Радзімы

№ 24 (2010)
11 чэрвеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Дружна квітнеюць сёлета сады ў вёсцы Абузава, што за пятнаццаць кіламетраў ад Гродна. Гэта цэнтральная сядзіба калгаса «Шлях да камунізму». Гаспадарка багатая, пра што можна меркаваць і па гэтым здымку. Шматпавярховыя дамы, у якіх жывуць механізатары, даяркі, палаводы, спецыялісты, пабудаваны на сродкі калгаса. У вёсцы ёсць таксама гандлёвы цэнтр, камбінат бытавога абслугоўвання, гасцініца, іншыя сацыяльныя аб'екты. Узводзіцца вялікі Палац культуры, які будзе каштаваць гаспадарцы амаль два мільёны рублёў. Пачынаецца таксама будаўніцтва вуліцы з дамамі сядзібнага тыпу — многім усё ж больш падабаецца жыць у традыцыйным вясковым доме, які мае і так званыя гарадскія выгоды.

Фота С. КРЫЦКАГА.

## СУСТРЭЧА Ў КРАМЛІ

2 чэрвеня Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сустрэўся з групай вядучых удзельнікаў VII кангрэса міжнароднага руху «Урачы свету за прадухіленне ядзернай вайны», якія праходзіў у Маскве.

Вітаючы іх, савецкі лідэр ацаніў кангрэс як яшчэ адзін буйны крок у развіцці гэтага ўплывовага руху. Мы далучаемся да мэт руху і ўлічваем іх у сваёй палітыцы, сказаў ён. У нас агульная адказнасць перад чалавецтвам.

М. С. Гарбачоў падзяліўся ідэямі і задумамі, якія ляжаць у аснове сучаснай савецкай знешняй палітыкі.

Задача выжывання, сказаў ён, узнімаецца над усімі супярэчнасцямі, усімі рознагалоссямі і несупадзеннем думак паміж дзяржавамі, сацыяльнымі рухамі, над інтарэсамі розных груп людзей. Гэты вывад ляжыць у аснове новага палітычнага мыслення.

М. С. Гарбачоў напомніў прысутным аб найбольш буйных ініцыятывах і акцыях, выкананых за апошнія два гады савецкім кіраўніцтвам у мэтах зніжэння міжнароднай напружанасці. Ці адэкватная рэакцыя з боку Захаду? Не! Там разважаюць: а ці не прыкмета гэта слабасці СССР? Можа, справа ў тым, што ён не вытрымлівае гонкі і варта яшчэ націснуць? У адказ на нашы імпульсы мы не сустракаем імпульсаў рэальнай палітыкі, а то і проста сутыкаемся з палітыканствам.

М. С. Гарбачоў асудзіў канцэпцыю «ядзернага стрымлівання», на якой будуецца палітыка НАТО. Ён назваў яе памылковай, небяспечнай і амаральнай пазіцыяй.

Адказваючы на пытанні субяседнікаў адносна выпрабавання ядзернай зброі, Генеральны сакратар ЦК КПСС заявіў, што СССР гатовы хоць заўтра разам з ЗША аб'явіць мараторый. Ён згадзіўся з прафесарам Лаўнам адносна таго, што праблему выпрабаванняў спрабуюць заблытаць у тумане размоў аб кантролі.

У ходзе сустрэчы былі закрануты іншыя праблемы разззбраення.

### УЗНАГАРОДЫ

## ПА ПРАГРАМЕ ЮНЕСКО

Граматы савецкага камітэта па праблеме «Чалавек і біясфера» міжнароднай праграмы ЮНЕСКО ўручаны групе беларускіх спецыялістаў за распрацоўку праектаў МАБ-11 і МАБ-13.

Галоўным у рэспубліцы па распрацоўцы праектаў «Экалагічныя аспекты гарадскіх сістэм» і «Разуменне стану навакольнага асяроддзя і ўдасканальванне экалагічнай палітыкі» быў Беларускі навукова-даследчы інстытут горадабудаўніцтва.

У выніку даследаванняў атрымана методыка аналізу і ацэнкі мікраклімату ў жылых масівах, магчымасць удасканальваць арганізацыю рэкрэацыйных зон і водна-зялёных сістэм гарадоў Беларусі, а таксама палепшыць стан гарадскога асяроддзя, ствараць адпаведныя ўмовы для адпачынку насельніцтва.

Высокую ацэнку атрымалі праекты і на нарадах прадстаўнікоў нацыянальных камітэтаў краін сацыялістычнай садружнасці ў Будапешце, Лейпцыгу, Шчэціне.

### ВІЗІТЫ

## ПАСОЛ НРБ У МІНСКУ

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Народнай Рэспублікі Балгарыі ў Савецкім Саюзе Г. Панкоў пабываў у Мінску.

Ён нанёс візіт першаму сакратару ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалову. Адбылася гутарка, якая прайшла ў сардэчнай, таварыскай абстаноўцы.

Пасол НРБ нанёс таксама візіты Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевічу, Старшыні Савета Міністраў рэспублікі М. Кавалёву і міністру замежных спраў Беларусі А. Гурыновічу.

У час знаходжання ў Мінску Г. Панкоў усклаў вянок да манумента-абеліска на плошчы Перамогі, ушанаваўшы мінутай маўчання памяць загінуўшых воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія праявілі высокую мужнасць і гераізм у баях за вызваленне Радзімы ад фашысцкіх захопнікаў.

Пасол наведаў Дом-музей I з'езда РСДРП і Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, азнаёміўся з выдатнымі мясцінамі беларускай сталіцы. Ён пабываў таксама ў Мінскім вытворчым аб'яднанні вылічальнай тэхнікі.

У гонар высокага госця міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч даў абед.

### ПРАМЫЯ СУВЯЗІ

## УЗАЕМНАЯ ВЫГАДА

Прамыя вытворчыя сувязі ўстанавілі Магілёўская доследна-эксперыментальная абутковая фабрыка і нацыянальнае прадпрыемства «Сазаван» з чэхаславацкага горада Зруч, якое спецыялізуецца на выпуску дзіцячага абутку.

«Ставім мэту пашырыць асартымент модных і прыгожых вырабаў, палепшыць іх якасць на нашых прадпрыемствах,—гаворыць дырэктар магілёўскай фабрыкі П. Літвінчук.—У калег мы перанялі лепшае—некалькі найноўшых узораў фармовачных падэшваў і фасонаў абутку. Цяпер наладжваем іх вытворчасць з уласнай сыравіны, каб ужо ў другім паўгоддзі выпусціць першыя сто тысяч пар такіх туфляў. Але і сябры з ЧССР не ў крыўдзе—ім мы прапанавалі свае апошнія мадэлі, якія атрымалі высокую ацэнку пакупнікоў».

Гэта толькі пачатак супрацоўніцтва. У перспектыве партнёры плануюць стварыць у Магілёве сумесную вытворчасць. З гэтай мэтай пачата рэканструкцыя фабрыкі, з завяршэннем якой у будучым годзе выпуск абутку для дзяцей будзе даведзены да 2,3 мільёна пар у год.

### РЭКАНСТРУКЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ



Гродзенскае вытворчае аб'яднанне «Азот» — адно з буйнейшых прадпрыемстваў нашай краіны па выпуску мінеральных угнаенняў. Цяпер тут ідзе тэхнічная рэканструкцыя. Ажыццяўляецца яна без спынення вытворчасці. Рэканструяваны цэх «Карбамід-2». У ім змантавана новая стометровая грануляцыйная вежа, якая дазволіць атрымліваць прадукцыю лепшай якасці. На больш сучасныя і эканамічныя заменены і іншыя агрэгаты. У выніку праектная магутнасць цэха вырасла амаль удвая. Адначасова скарацілася выкарыстанне вадкага аміяку, іншых відаў сыравіны, дасягнута эканомія паліўна-энергетычных рэсурсаў.

НА ЗДЫМКУ: новая вежа цэха «Карбамід-2».

### КАНТАКТЫ

## УРАЗІЛА ПОСПЕХАМІ І ДАСЯГНЕННЯМІ

«Любы чалавек, які лічыць сябе грамадзянінам, заўсёды валодае талентам дыпламата. Сустракаючыся адзін з адным, людзі могуць зрабіць значна больш за афіцыйных палітыкаў,—сказаў у інтэрв'ю журналістам доктар Ота Бернау, дэпутат парламента, старшыня народнай партыі фракцы ландтага зямлі Ніжняя Аўстрыя.— Могуць зламаць стэрэатыпы мыслення ў духу непазбежнасці вайны, ліквідаваць варожасць, неразуменне. Сустрэчы на беларускай зямлі яшчэ раз пераканалі ў гэтай думцы. Беларусы—надзвычай сардэчны народ. Калі ўлічыць, што ім давялося перажыць у гады вайны і акупацыі, то рэспубліка проста ўразіла нас поспехамі і дасягненнямі ў эканоміцы і будаўніцтве.

Мы гутарылі з гарадскімі ўладамі ў Мінскім гарвыканкоме—у нас аказалася шмат агульных праблем. Мы хацелі б часцей сустракацца, абменьвацца вопытам, турыстычнымі і культурнымі дэлегацыямі. Хутка народы нашых краін адзначаць юбілей—20-годдзе садружнасці Беларусі і зямлі Ніжняя Аўстрыя».

Аўстрыйскія госці пазнаёміліся з Мінскам, наведалі горад беларускіх аўтамабілебудаўнікоў Жодзіна, іх прыняў міністр аўтамабільнага транспарту БССР, старшыня праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-аўстрыйскай дружбы В. Барадзіч.

### СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Земляробы калгаса «І Мая», што ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, мяркуюць сабраць сёлета з кожнага гектара па 42 цэнтнеры збожжа, па 300— бульбы і па 390 цэнтнераў цукровых буракоў. Зараз у гаспадарцы ідзе догляд за пасевамі.

НА ЗДЫМКУ: галоўны агранам калгаса Юрый ВАШЧЫЛА (справа) і механізатар Іван ШЭРШАНЬ.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

## КІРМАШ У БЕЛАСТОКУ

У польскім горадзе Беластоку прайшоў першы міжнародны кірмаш прыгранічнага гандлю «Дру[illegible]». Ён быў арганізаваны па ініцыя[illegible] ваяводскага камітэта ПАРП [illegible] галоўнага праўлення таварыства польска-савецкай дружбы. У кірмашы прымалі ўдзел гандлёвыя арганізацыі Савецкага Саюза і Польшчы. Сваю прадукцыю дэманстравалі фірмы дзесяці прыгранічных польскіх [illegible]дстваў, а таксама прадпрыемствы Літоўскай ССР і Гродзенскай вобласці Беларусі.

На кірмашы былі прапанаваны ўзоры тавараў для прыгранічнага гандлю. Тут жа прадстаўнікі гандлёвых арганізацый Савецкага Саюза і Польшчы заключылі кантракты аб таварабмене на бягучы год.

Гэты кірмаш дае пачатак якасна новаму этапу ў развіцці савецка-польскіх гандлёвых адносін. Прамы безвалютны абмен таварамі паміж польскімі і савецкімі гандлёвымі арганізацыямі дапаможа лепш задаволіць патрэбы пакупнікоў абедзвюх краін, апаратыўна ўкараняць навінкі, умацоўваць кантакты паміж аднатыпнымі прадпрыемствамі.

### ВЫСТАЎКІ

## ЭКСПАЗІЦЫЯ ЧАСОПІСА «ШПІЛЬКІ»

У мінскім кінатэатры «Масква» адбылася выстаўка сатыры і гумару польскага часопіса «Шпількі». Карыкатуры вядучых мастакоў аднаго з самых папулярных польскіх выданняў здольны не толькі рассмяшыць, але і прымусіць глыбока задумацца аб сэнсе жыцця, аб лёсах свету, аб многіх праблемах, што хвалююць сёння нашы народы.

Выстаўка арганізавана рэдакцыямі часопісаў «Шпількі» і «Вожык». Яе адкрылі галоўныя рэдактары польскага і беларускага сатырычных выданняў В. Філер і В. Болтач.

У снежні мінулага года ў Варшаве вялікім поспехам карысталася выстаўка беларускага сатырычнага малюнка, якія прадстаўлялі лепшыя аўтары «Вожыка».

На адкрыцці выстаўкі прысутнічаў генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзіньскі.

### ЛЕКАВЫ НАПІТАК

## КУМЫС—ГЭТА ЗДАРОЎЕ

У Беларусі першыя кумысалячэбніцы ўжо вядомы былі ў другой палове XIX стагоддзя ў Дуброўне Магілёўскай і Ігуменскім павеце Мінскай губерні.

Цяпер гэты лекавы напітак выпускаецца таксама ў шэрагу гаспадарак. Так, у саўгасе-камбінаце «Мір» Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці здадзены ў эксплуатацыю сучасны конегадоўчы комплекс на тысячу галоў. Асноўная мэта яго—вытворчасць такога далікатэснага прадукту, як кумыс. За год тут атрымліваюць прыкладна 14 тысяч кілаграмаў кумысу.

Мінскі малочны завод, Гомельскі малочны камбінат і іншыя прадпрыемствы выпускаюць кумыс з каровінага малака. Яму ўласцівыя тыя ж вартасці, што і кумысу з кабылінага малака.

### ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Вечарам, прысвечаным творчасці Янкі Купалы, заявіла аб сваім нараджэнні літаратурна-музычная гасцёўня «Крыніца» пры Верцялішкаўскім Доме культуры. У бліжэйшы час савет гасцёўні запросіць вяскоўцаў на музычныя вечары, сустрэчы з дзеячамі літаратуры і мастацтва, канцэрты мастацкай самадзейнасці, дні сямейнага адпачынку.

МАГІЛЁЎ. Тут пачала дзейнічаць газазаправачная станцыя. На блакітнае паліва ў горадзе пераведзены ўсе грузавыя аўтамабілі марак «ГАЗ-53» і «ЗІЛ-130».

Гэта адзінаццатая па ліку газазаправачная станцыя ў рэспубліцы.

### АЛЕЯ ДРУЖБЫ



Яе пасадзілі на беразе штучнага вадаёма ў адным з жылых мікрараёнаў сталіцы беларускія і афганскія студэнты, якія заканчваюць курс навучання ў Беларускім дзяржаўным універсітэце «Нам хочацца пакінуць памяць пра сябе на гасціннай беларускай зямлі, — сказаў адзін з арганізатараў гэтай акцыі Наім Сахар. — Думаем, што нашы дрэвы дружбы пусцяць глыбокія і трывалыя карані».

НА ЗДЫМКУ: пасадка Алеі дружбы.

ПАМЯТЬ О ПОДВИГЕ ОТЦОВ

# ЗВЕЗДА НА ЛАДОНИ

...Над могилами пели соловьи. Да так пели, что слов очередного оратора не разобрать было. Девочка с магнитофоном записывала речи на пленку—должно быть, одних соловьев записала...

А люди стояли в тесных проходах между могильными оградами, сжимая в руках букетики. И были среди них трое: Александр Тамкович, Анатолий Жаркевич и Сергей Бесман—молодые рабочие Руденского завода пластмассовых изделий. Они могли бы тоже рассказать, как по вечерам после работы приходили сюда, на кладбище, и дотемна работали над этим скромным памятником Николаю Яровскому—партизанскому командиру. Могли бы рассказать и о вдохновителе этой затеи—заводском мастере Петре Лепешко, который разыскал на сельском погосте поросший травою холмик, собирал документы и фотоснимки, все, что связано с именем командира партизанского отряда имени Кутузова, а однажды пришел к ним и сказал: «Ребята, такое дело...»

Этот памятник они начали строить еще прошлой осенью. Точнее, не памятник, а памятный знак—раскрытая книга и текст: «Имена ваши мы нанесем на гранитные плиты, на бетон и на мрамор и вплавим в металл. Повторим нашу клятву: «Никто не забыт, и ничто не забыто». И добавим: «Без вести никто не пропал». Хотелось им, конечно, не просто знак на могиле поставить, а настоящий памятник. Но это, по словам Лепешко, не так просто. Один раз попробовали — пару лет назад решили установить памятник в урочище, где находилась база партизанской бригады. Выяснилось: необходим проект, выполненный профессиональным скульптором, заключение худсовета, разрешение по форме и так далее. Чтобы не разводить эту канитель, пришлось ограничиться знаком. А впрочем, считает Лепешко, все верно: если каждый станет на свой вкус памятники возводить—что будет?

Что касается слов, которые высечены на могиле Яворского, то вычитал их Петр Игнатьевич в республиканской молодежной газете. Он еще звонил в редакцию, уточнял, чьи слова, откуда взяты. Было это полгода назад, а может, больше. Вот с каких пор они знак строили. Погода мешала. Осень в прошлом году была ранняя. А потом какие морозы были? Бетон замерзал, работать нельзя... Вот о чем могли бы рассказать Александр Тамкович, Анатолий Жаркевич и Сергей Бесман. Они стояли в сторонке и слушали выступающих.

Иван Агейчик—бывший командир партизанского взвода—отдал кому-то свою трость, подошел к могиле. Потом достал из кармана бумажный сверточек, развернул его. Он протянул ладонь: «Смотрите!» В ней лежал орден Красной Звезды. «Это Яворского орден. Столько лет я хранил его, и вот такой случай... Я подумал, что очень кстати... Возьмите, ребята, ему же в музее место. И вот что еще, ребята,—продолжал Иван Денисович.—Спасибо вам. За память».

...Мимо прогрохотала электричка, свистнула, подъезжая к станции. Люди стояли молча, склонив головы, и над сельским кладбищем вовсю пели соловьи.

**Д. ФИЛИМОНОВ.**





**В Минске прошли не совсем обычные молодежные балы-карнавалы. Программу этого шумного и веселого праздника разработали активисты Молодежного центра, созданного в городе, и специалисты Республиканского Дома моделей одежды. Девять дней более тысячи молодых людей—учащиеся профессионально-технических училищ, школ, студенты, молодые рабочие, гости Минска — собирались во Дворце культуры железнодорожников, чтобы оценить вкусы друг друга, послушать суждения профессионалов, поспорить о моде сегодняшней, завтрашней, просто отдохнуть, потанцевать.**

**Такие балы теперь будут проходить четыре раза в год, накануне каждого сезона.**

**НА СНИМКАХ: весело на карнавале; цыганский танец.**

**Фото В. ВИТЧЕНКО.**

## ЛЮБОПЫТНАЯ ХРОНИКА

### КОСМИЧЕСКИЙ ТРАНСПОРТ XXI ВЕКА?

26-летний инженер из Гомеля изобрел не имеющую мировых аналогов транспортную космическую систему.

Представьте себе эстакаду, охватывающую Землю вдоль экватора. На ней укреплена закольцованная труба (протяженностью, как и сам экватор, 40 тысяч километров). Эта труба и есть звездолет: на металлическую ленту, находящуюся внутри трубы в вакууме, подается электрический ток. Поддерживаемая магнитной подвеской, лента превращается в ротор гигантского электродвигателя. В ней возникают центробежные силы, лента становится невесомой—сбрасываются захваты, и труба исчезает за облаками.

Вместе с ней Землю могут покинуть и 100 миллионов пассажиров, захватив с собой 100 миллионов тонн груза.

Изобретатель гарантирует, что этот звездолет способен вернуться обратно. Для этого предусмотрена вторая лента, которая, вращаясь в обратную сторону, даст «колесу» обратный ход.

С позиций физики проект вполне корректен. Такая труба действительно может взлететь в космос. Смущает другое: ее космическая стоимость—10 триллионов рублей.

### СШИТЬ МОЖНО ВСЕ

Это доказал студент Дмитрий Сурский из Минска. Будущий дизайнер сшил... автомобиль. На двухместную машину пошло 8 метров тентовой ткани, 40 метров тонких водопроводных труб и двигатель, снятый со старого мотоцикла. Сейчас у Дмитрия появились первые заказчики—товарищи по студенческой группе. Ткани они покупают на 1,5 метра больше—не только на автомобиль, но и на брюки.

### ПРИГЛАШАЕТ «МАЛАДЗІК»

В городе Светлогорске, что на Гомельщине, открылся молодежный центр под названием «Маладзік». Хозяевами его стали молодые рабочие производственного объединения «Химволокно».

Местные власти предоставили в распоряжение молодежи одно из зданий в жилом микрорайоне. Юноши и девушки сами сделали в нем ремонт, со вкусом и выдумкой оформили интерьер.

Здесь расположились концертно-танцевальный зал, игровые комнаты, видеосалон, коктейль-бар, зал любительских объединений. Словом, здесь каждый может найти себе занятие по душе.

## *ВЫ ХОТИТЕ ЗНАТЬ*

**— Как у вас обстоят дела с рождаемостью! Сколько детей хотят иметь молодые!**

В прошлом году в Советском Союзе произошел демографический мини-взрыв. Число родившихся на 1 000 жителей составило 19,9 против 19,4 в 1985 году, а число умерших снизилось соответственно с 10,6 до 9,7. Таким образом, прирост населения составил почти 3 миллиона человек против 2,5 в 1985 году.

Вот общие данные, которые взяты из «Психологического журнала» (орган Академии наук СССР): 98 процентов из 600 опрошенных социологами учащихся средних школ, профессиональных училищ и студентов в возрасте 16 — 24 лет «запланировали» 2 — 3 детей.

Такая тенденция радует наших демографов. Ведь по мнению одного из них—Виктора Переведенцева, для полного демографического благополучия в стране нужна как минимум трехдетная семья. Третий ребенок — решающий.

**— Мо[illegible] и исключить ученика из школы! Что в таком случае будет с н[illegible] дальше! Может ли ученик перейти в другой класс, если он не уживется в своем!**

— Из школы у нас исключить могут, но это — крайняя (и, добавим, весьма редкая) мера наказания за серьезные нарушения школьной дисциплины — скажем, хулиганство, сознательное уклонение от [illegible]бы. Еще это может произойти, если ученик раз за разом ос[illegible]я в одном классе «на второй год».

Исключ[illegible]ь или нет — решают все учителя школы на педсовете. Решение «исключить» становится законным только после утверждения комиссией по делам несовершеннолетних, которая есть в каждом местном органе исполнительной власти. Эта же комиссия обязана решить все вопросы, связанные с дальнейшим образованием исключенного из школы (в СССР действует закон о всеобщем среднем образовании молодежи).

Что же касается «неуживчивых», то такие могут переходить не только в другой класс, но и в другую школу.

**— Почему молодым советским гражданам не разрешают проводить отпуск на Западе!**

— Ежегодно за рубеж выезжают примерно 4 миллиона советских туристов. Более половины из них молодые люди 18—30 лет.

Для организации молодежного международного туризма 30 лет назад было создано специальное бюро — «Спутник». Сегодня оно поддерживает деловые связи с 500 партнерами в 80 странах всех континентов.

«Спутник» предоставляет молодым туристам существенные привилегии. Например, каждый год около 30 тысяч молодых рабочих, колхозников и студентов ездят за рубеж бесплатно. Остальные за туристскую путевку в страны Запада платят полцены, в страны Азии, Африки и Латинской Америки — четверть ее стоимости.

И тем не менее турпоездка на Запад не всем, как говорится, по карману. Такое сравнение: за счет разницы в ценах расходы молодого западноевропейца на поездку в СССР составляют всего 1/5—1/3 расходов советского туриста, едущего на Запад (например, один день пребывания в СССР стоит датчанину около 9 рублей, а русскому в Дании — 30—35 рублей). Поэтому большинство молодых предпочитают путешествовать в социалистические страны — для них это гораздо дешевле.

**— Какие профессии наиболее популярны у молодежи!**

— Недавно наш известный социолог профессор Владимир Шубкин вместе со своими коллегами провел опрос среди 16—18-летних юношей и девушек, в результате которого были определены десять наиболее престижных профессий.

Вот этот список:

| Профессии | Ранг престижа у юношей | девушек |
|---|---|---|
| Врач | 1 | 1 |
| Инженер | 2 | 6 |
| Моряк | 4 | 9 |
| Писатель | 3 | 2 |
| Научный работник | 5 | 5 |
| Металлург | 6 | 10 |
| Артист | 7 | 3 |
| Журналист | 8 | 8 |
| Продавец | 9 | 7 |
| Токарь | 10 | 16 |

Социологи сделали вывод: молодежь романтизирует ряд профессий (особенно творческих), считая, что они гарантируют и успех, и личное удовлетворение, и высокую материальную обеспеченность.

# ОХОТА НА ДАЛЬНЕМ ВОСТОКЕ

Осенью и зимой в специализированных магазинах городов «Дары тайги» на Дальнем Востоке заметно увеличивается поток покупателей. Дело в том, что в это время открывается охотничий сезон и в продаже появляется свежее мясо диких животных: лося, изюбря и даже медведя.

Здешние домохозяйки не нуждаются в призывах рекламы, чтобы оценить достоинства дичатины, а в городах рестораны специализируются в приготовлении таких блюд, как рябчик в горшочке, шашлык из дикого кабана, котлеты из оленины и т. д. В дальних поселках вы можете попробовать излюбленную еду местных жителей: строганину — мелко наструганное свежезамороженное мясо изюбря, приправленное уксусом, перцем, солью, луком.

Для многих коренных народностей советского Дальнего Востока, особенно на севере, где остались девственными большие площади тайги и тундры, мясо диких животных остается важной частью их меню.

Животный мир этого региона славится обилием различных зверей, птиц и рыб. Здесь обитают более ста видов млекопитающих, и почти половина из них является объектом промысловой охоты. Охотничье хозяйство на Дальнем Востоке было и остается важной самостоятельной отраслью экономики.

Наиболее ценная добыча охотников — пушнина: соболь, белка, песец, выдра, американская норка и ондатра и др. Пушной царь, конечно же, соболь. По красоте, пышности и шелковистости мех этого удивительно жизнестойкого и пластичного зверька не имеет себе равных.

Дороговизна шкурки в прошлом веке едва не привела к полному истреблению соболя. Энергичные меры, принятые Советским правительством в 30—40-х годах нашего столетия, восстановили его численность. Сегодня промысловое поголовье соболя достигает четверти миллиона особей. Советский Союз является монополистом в мировой заготовке соболя, и треть всех заготовок страны приходится на Дальний Восток.

Удачей считает для себя каждый охотник — свалить лося. Подвид, обитающий на Дальнем Востоке, достигает 500 килограммов веса. Насчитывается здесь 70—80 тысяч голов лосей. По-настоящему спортивный, увлекательный характер носит охота на изюбря, косулю и кабана.

Среди местных жителей ходят легенды о целебных свойствах мяса бурого медведя, особенно его желчи, которую лет 70 назад обменивали грамм на грамм золота. Любители медвежатины есть и сейчас. Но охота на этого зверя — рискованное предприятие: камчатские и приамурские медведи отличаются злобным нравом, агрессивностью и большими размерами. Некоторые особи весят свыше 500 килограммов.

Ни охотник-любитель, ни промысловик не выходят в тайгу без специальной лицензии. Отстрел осуществляется в строго определенные сроки и в разрешенных лицензией количествах. На отстрел, например, лося устанавливается квота не более десяти процентов при естественном приросте 15—20 процентов. Такие меры позволяют постоянно расширять охотничьи запасы.

Общая численность охотников на Дальнем Востоке СССР сегодня превышает 150 тысяч человек, из них промысловиков-профессионалов всего около трех тысяч. Организацией промысловой охоты ведают кооперативные зверохозяйства. Любительскую охоту координируют спортивные общества охотников и рыболовов.

**Сергей КУЧЕРЕНКО,**
**кандидат биологических наук.**
(АПН).

# СЛУЖБА СОЦИАЛЬНОЙ ПОМОЩИ НА ДОМУ

Статистика утверждает, что количество пенсионеров в СССР, как и в других странах мира, постоянно увеличивается. За последние 30 лет их число выросло в четыре раза. На пенсионное обеспечение государство ежегодно расходует около 50 миллиардов рублей, прилагая большие усилия, чтобы сделать жизнь пожилых людей более полноценной. Этим же целям служит и проходящий сейчас в ряде советских городов эксперимент по созданию службы социальной помощи на дому одиноким и престарелым людям.

В стране существует немало специальных домов-интернатов для престарелых, но многие из стариков предпочитают жить дома, и это понятно. Для пожилого человека очень много значит, чтобы его окружали привычные вещи, во дворе можно было бы перекинуться парой слов с соседями. Но вот беда, с возрастом все труднее бывает добраться до магазина, прачечной, химчистки... Все эти заботы и лягут на плечи сотрудников отделений социальной помощи на дому, организуемых сейчас при районных отделах социального обеспечения. Работают в них в основном домашние хозяйки, студенты. За свою работу они получают зарплату, в то время как те, кому адресованы их услуги, пользуются ими бесплатно.

— Я искала именно такую работу, которая давала бы мне возможность общения,— говорит студентка III курса Московского архитектурного института Ольга Семенова.— И оказалось, что со старыми людьми очень интересно. Им есть что вспомнить, что рассказать. Как правило, я работаю два-три раза в неделю, но звонить своим подопечным стараюсь практически каждый день.

— Начали мы с того, что по картотекам районного отдела социального обеспечения выяснили адреса всех, кто нуждается в нашей помощи, и определили, в какой именно,— рассказывает руководитель одного из отделений социальной службы в Калининском районе Москвы Ирина Макарова.— Затем, исходя из потребностей, определили штат сотрудников: на каждого из них приходится девять-десять подопечных. Составили также перечень предоставляемых услуг.

— И что в него входит?

— Мы покупаем продукты, лекарства, относим белье в прачечную, вещи в химчистку. Можем помочь написать письмо, вызвать врача, купить газеты и журналы. Но если, к примеру, надо проводить старого человека в поликлинику, никто не считает это не своим делом, хотя такая услуга и не значится в официальном перечне. В нашей группе в основном студенты, и все они очень серьезно относятся к своей работе, всегда готовы помочь, подменить друг друга, если в этом есть необходимость.

Конечно, если бы в нашей работе участвовали профессиональные медицинские сестры, это подняло бы ее на качественно иную ступень,— говорит Ирина Макарова.— Правда, нам помогают патронажные сестры из районных поликлиник, но число их невелико.

Впрочем, именно для того, чтобы в точности определить, какой именно должна быть служба социальной помощи на дому, и проводится этот эксперимент. Его главная задача — окружить вниманием и заботой всех, кто в ней нуждается.

**Галина ФАДЕЕВА.**





Эти снимки сделаны нашим фотокорреспондентом в Пскове — одном из древнейших русских городов. Многие наши зарубежные соотечественники, вероятно, бывали здесь, совершая поездку по «золотому кольцу» России.

Город привлекает туристов прежде всего архитектурными памятниками, главный среди которых — кремль с каменными укреплениями XIII века и Троицкий собор XVII столетия. В Пскове сохранились десятки других шедевров русского зодчества.

Эти храмы, соборы, церкви были свидетелями многих событий — больших и малых, радостных и печальных, которыми богата история города. В XIV—XV веках он был центром Псковской феодальной республики.

Каждый советский школьник знает о мужестве псковичей на поле Куликовом и их победе над рыцарями грозного Тевтонского ордена на Чудском озере. В 1650 году здесь произошло одно из крупнейших городских антифеодальных восстаний. Словом, немало замечательных страниц вписал Псков в российскую историю.

Сегодня город старается сохранить все, что осталось ему в наследство от прошлых веков. В реставрированных памятниках архитектуры разместились интересные музеи, в которых всегда людно. Приезжайте в этот город, и вы увидите много прекрасного.

НА СНИМКАХ: памятник А. Пушкину и его няне Арине Родионовне в городском сквере; Псковский кремль; жилой массив в центральной части города; уголок кремля.

Фото С. КРИЦКОГО.





## *СТВОРАНА І ДЗЕЙНІЧАЕ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*

# ФОНД КУЛЬТУРЫ—ФОНД ПАМЯЦІ НАРОДНАЙ

**Гутарку з пісьменнікам, старшынёй праўлення Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры Іванам ЧЫГРЫНАВЫМ вядзе наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.**

*— Іван Гаўрылавіч, як вы расцэньваеце сам факт нараджэння Савецкага фонду культуры? Чаму ўзнікла неабходнасць яго стварэння?*

— Савецкі фонд культуры— адна з грамадскіх арганізацый у СССР — нарадзіўся ў якасна новай палітычнай атмасферы ў нашай краіне, на пераломным этапе яе развіцця. Нараджэнне Фонду можна толькі вітаць.

Нараджэнню СФК садзейнічала шырокая дэмакратызацыя нашага духоўнага жыцця. Наогул жа ідэя стварэння такой арганізацыі ўзнікла не раптоўна і не па загаду «зверху». Яна была падрыхтавана ўсёй атмасферай, якая панавала ў краіне перад XXVII з'ездам партыі. Дзеячы мастацтва, навукі, супрацоўнікі розных культурных устаноў, самыя шырокія слаі савецкага грамадства выступалі на старонках газет, па радыё, на тэлебачанні з прапановамі аб стварэнні такой арганізацыі. І гэта было заканамернай з'явай. Культура, асабліва ў сённяшніх умовах, не можа паўнакроўна развівацца намаганнямі толькі адных спецыялістаў, прафесіяналаў нават самага высокага класа. Яна ўзбагачаецца ўсім грамадствам, усім народам. Таму стварэнне Савецкага фонду культуры — гэта адзін з важнейшых крокаў па залучэнню шырокіх народных мас, канкрэтных спажыўцоў культурных каштоўнасцей да абмеркавання і вырашэння праблем культуры, у канчатковым выніку да працэсу выпрацоўкі культурнай палітыкі савецкага грамадства.

*— У чым заключаюцца галоўныя мэты і задачы Савецкага фонду культуры?*

— Найбольш поўна яны вызначаны Статутам Фонду, які быў надрукаваны перад прыняццем і зацвярджэннем і абмяркоўваўся на сходах у працоўных калектывах. Калі коратка, то гэта садзейнічанне больш поўнаму і глыбокаму асваенню народам багаццяў айчыннай і сусветнай культуры; фарміраванне пачуцця грамадзянскай адказнасці за стан і развіццё мастацтва.

Фонд лічыць сваёй задачай актыўна далучаць розныя групы насельніцтва да культурнага будаўніцтва, выкарыстоўваць іх творчыя намаганні і матэрыяльныя магчымасці ў інтарэсах памнажэння духоўнага багацця грамадства, дапамагаць больш поўнаму задавальненню культурных запатрабаванняў. Зыходзячы з гэтага, Фонд будзе садзейнічаць залучэнню на добраахвотных пачатках асабістых калекцый у грамадскае карыстанне, заахвочваць фарміраванне і захаванне асабістых архіваў і калекцый. Між іншым, мяркуецца і стварэнне музеяў асабістых калекцый.

Намаганні Фонду будуць сканцэнтраваны на збіранні і захоўванні агульнанацыянальных каштоўнасцей — твораў мастацтва, кніжных збораў і рукапісаў, гістарычных матэрыялаў, рэстаўрацыі і ахове помнікаў архітэктуры...

У сферу ж замежнай дзейнасці Фонду ўваходзяць у першую чаргу пошукі і вяртанне на Радзіму твораў мастацтва, іншых каштоўнасцей айчыннай культуры, якія знаходзяцца за рубяжом.

Многія нашы суайчыннікі, якія воляю лёсу апынуліся за мяжой, захоўваюць у сваіх сем'ях унікальныя гістарычныя матэрыялы, творы мастацтва. І нярэдка яны хацелі б вярнуць іх на Радзіму—тым самым выканаць абавязак перад сваім народам. Дапамагчы ім ажыццявіць гэты патрыятычны ўчынак і заклікаль наш Фонд культуры. Таму кожны, хто нераўнадушны да айчыннай культуры, адчувае сваю [illegible]оўную сувязь з ёю, знойдзе [illegible] мен-не і падтрымку.

*— Хто можа быць членам Фонду?*

— У Фондзе культуры не будзе індывідуальнага ч[illegible]тва ў тым разуменні, як ян[illegible]уе ў многіх іншых грамадскіх арганізацыях: ніякіх членскіх або ўступных узносаў. Толькі добраахвотныя, размер якіх вызначае сам грамадзянін ці калектыў, што жадае падтрымаць Фонд. Наогул жа, удзел грамадзян, калектываў у рабоце Фонду, асабліва ў матэрыяльнай падтрымцы яго праграм, прадугледжваецца толькі добраахвотны. У сваю чаргу, грамадскасць будзе шырока інфармавацца аб атрыманні ў дар твораў культуры, будуць публікавацца звесткі аб арганізацыях і асобах ( з іх згоды), якія актыўна супрацоўнічаюць з Фондам, перадаюць яму значныя культурныя каштоўнасці, унеслі ці ўносяць грашовыя ўклады. Ад імя Фонду арганізацыі і асобныя грамадзяне будуць заахвочвацца спецыяльнымі прэміямі, граматамі, знакамі, аж да выбрання найбольш заслужаных ганаровымі членамі Фонду.

*— Прайшоў зусім невялікі тэрмін з часу заснавання Фонду — трохі больш за паўгода. Ці можна ўжо гаварыць пра які-небудзь плён яго дзейнасці?*

— Аўтарытэт Фонду культуры (гэта самаўпраўленчы орган грамадскасці), я б сказаў, імкліва расце. Між іншым, хачу адзначыць, што гэты Фонд мае немалыя паўнамоцтвы. Ён мае намер працаваць разам з усімі добраахвотнымі таварыствамі, з творчымі саюзамі, рознымі арганізацыямі, ад якіх у той ці іншай ступені залежыць захаванне і развіццё многанацыянальнай савецкай культуры. Бо, на жаль, не ўсё яшчэ ў гэтай галіне задавальняе наша грамадства. Ёсць яшчэ помнікі, якія трэба неадкладна ратаваць, ёсць і негатыўныя адносіны да культурнай спадчыны народа — фальклору, гісторыі, традыцый.

Ва ўмацаванне аўтарытэту Савецкага фонду зрабілі свой уклад амерыканскі бізнесмен Арнольд Хамер, сын праслаўленага рускага спевака Шаляпіна, вядомыя мастакі Рэрых і Хадасевіч-Лежэ. Па завяшчанні ўраджэнца беларускай вёскі Вакшаны Капыльскага раёна мастака Розіна яго жонка Т. Вексна перадала ў дар аддзелу культуры Капыльскага райвыканкома больш за 40 мастацкіх палотнаў, 114 эскізаў карцін. Дзесяткі работ неўзабаве яшчэ будуць перададзены. Агульная вартасць гэтага дару складае 70 тысяч рублёў. Калекцыя мастака Розіна ляжа ў аснову мясцовай карціннай галерэі. Ствараецца таксама карцінная галерэя ў калгасе «Чырвоны сцяг» на Валожыншчыне, аснову якой склалі скульптурныя і графічныя творы мінскага мастака А. Кандрацьева.

Толькі за апошні час перададзены ў грамадскае карыстанне значныя культурна-гістарычныя каштоўнасці. Так, пісьменнік Сава Дангулаў пераве́ў грошы на будаўніцтва бібліятэкі ў сваім родным горадзе Армавіры і гэтаму ж гораду перадаў выдатную калекцыю карцін. Ерэванскай галерэі падарыў свой збор твораў рускага мастацтва прафесар Абрамян.

У Беларусі пераважалі аднымі з першых грашовыя сродкі ў Фонд культуры Алена Шахала са Смалявіч, Генадзь Абібак—дырэктар народнага аркестра БССР, пісьменнікі Святлана Алексіевіч і Эдуард Скобелеў. А калектыў народнага ансамбля песні і танца «Сузор'е» з Брэста пералічыў у Фонд атрыманую ім прэмію Ленінскага камсамола Беларусі.

А вось і зусім нядаўняя падзея. Пра яе змясціла інфармацыю газета «Правда». Аб тым, што ў Маскве ў Савецкім таварыстве па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Таварыства «Родина») адбылася цырымонія перадачы работ К. Брулова і Г. Шылцяна ў дар нашай краіне. Іх прывезла з Італіі ўдава мастака Е. Шылцян.

*— Сёлета ў маі ў Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры. Дэлегатамі яе былі пісьменнікі і рабочыя, вучоныя і артысты, партыйныя работнікі і мастакі, культработнікі і кінематаграфісты, вядомыя дзеячы культуры Беларусі. Якімі будуць першыя крокі гэтай арганізацыі? Якія перспектывы яе дзейнасці?*

— Беларускае аддзяленне Фонду прымае ўдзел у рэалізацыі некалькіх доўгатэрміновых праграм. Першая з іх носіць назву «Памяць». Дарэчы, падмурак гэтай праграмы ў рэспубліцы быў закладзены раней вучонымі і энтузіястамі. Так, на Беларусі выяўлена і ўлічана 15 210 помнікаў гісторыі і культуры. Пад дзяржаўную ахову ўзята 10 815. Тры гады наза[illegible] у рэспубліцы ўжо пачалася [illegible]лізацыя праграмы работ па [illegible]ахаванню старажытных цэнтраў гістарычных гарадоў. Наперадзе распрацоўка планаў рэгенерацыі і рэканструкцыі Нясвіжа, Мсціслава, Полацка, Слоніма, Гродна і іншых.

Аргані[illegible] часткай рэалізацыі другой праграмы ў рэспубліцы будзе работа па ўвекавечванню, адраджэнню і папулярызацыі гісторыка-літаратурных мясцін Беларусі, звязаных з імёнамі вядомых беларускіх асветнікаў і пісьменнікаў.

Рэспубліканскае аддзяленне Фонду культуры мяркуе прыняць самы актыўны ўдзел у стварэнні экспазіцыі музея гісторыі кнігадрукавання, які адкрыецца на тэрыторыі Полацкага запаведніка да 500-гадовага юбілею Скарыны. Да гэтай важнай справы падключацца шматлікія калекцыянеры і аматары кнігі.

Беларускае аддзяленне Фонду прыме таксама ўдзел у праграме «Моладзь і культура» і ў «Комплекснай праграме эстэтычнага выхавання насельніцтва рэспублікі».

Вядома, планы работы Беларускага аддзялення Фонду будуць яшчэ карэкціравацца, дапаўняцца. І многае тут будзе залежаць ад грамадзянскай актыўнасці людзей. У праўленне нашага Фонду ўжо ўнесены карысныя прапановы. Вось толькі некаторыя з іх. Напрыклад, прапануецца прадугледзець стварэнне помнікаў выдатным дзеячам культуры і гісторыі Беларусі, а збор сродкаў праводзіць на канкрэтныя помнікі. Выказваецца пажаданне, маючы на ўвазе выключную самабытнасць і багацце беларускага фальклору, унесці прапанову ў Вярхоўны Савет БССР аб ахове яго адпаведным заканадаўчым актам. Заслугоўвае ўвагі і прапанова аб арганізацыі ў нас камітэта аховы беларускай мовы і правядзенні штогадовага свята мовы.

*— Іван Гаўрылавіч, што б вы сказалі нашаму замежнаму чытачу, тым беларусам, што жывуць сёння ў краінах Заходняй Еўропы, ЗША, Канадзе, Лацінскай Амерыцы?*

— Паважаныя суайчыннікі! Нялёгкі лёс выпаў на вашу долю — жыць удалечыні ад сваёй зямлі і свайго народа. Шматпакутная наша Беларусь неаднойчы станавілася арэнай жорсткіх бітваў, дзе вырашаліся лёсы не аднаго толькі беларускага народа. Захопнікі розных масцей, імкнучыся скарыць беларусаў, знішчалі і вывозілі бясцэнныя скарбы матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа. Напрыклад, у Вялікую Айчынную вайну фашысты разрабавалі Дзяржаўны музей БССР, на Захад былі вывезены найбольш каштоўныя часткі збораў рэспубліканскай, акадэмічнай, універсітэцкай і мінскай гарадской бібліятэк. Там жа аказаўся і архіў Акадэміі навук БССР. Разрабавана калекцыя Баранавіцкага музея.

Па крупінках вяртаецца тоесёе на Радзіму...

Мы звяртаемся да вас, далёкія нашы суайчыннікі, з просьбай усяляк садзейнічаць вяртанню на родную зямлю створаных беларускім народам твораў мастацтва, каштоўных гістарычных дакументаў, старажытных кніг і рукапісаў, аказваць пасільную матэрыяльную падтрымку дзейнасці нашага Фонду.

Рахунак Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры зарэгістраваны пад № 700. Чакаем вашых паведамленняў, прапаноў, пажаданняў.

## *ЯРКІ І ЖЫЦЦЕСЦВЯРДЖАЛЬНЫ*

З вялікім поспехам выступіў у заходнегерманскім горадзе Бохуме на міжнародным фестывалі лялечнікаў Дзяржаўны тэатр лялек БССР.

«Яркі і жыццесцвярджальны спектакль беларускага тэатра стаў несумненным упрыгажэннем фестывалю. У ім пакарае ўсё... Але асабліва варта адзначыць меладычнасць і напеўнасць беларускай мовы, якая была ўспрынята гледачом, дзякуючы выдатнаму выкананню акцёраў»,—пісала газета «Бохум Цайт».

— Агульначалавечае гучанне спектакля дапамагло пераадолець моўны бар'ер, зрабіла яго зразумелым гасцям і ўдзельнікам фестывалю ў Бохуме,—сказаў пасля вяртання ў Мінск галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек БССР, пастаноўшчык спектакля Аляксей Ляляўскі.—Эстэтычная платформа заходніх тэатраў прыкметна адрозніваецца ад нашай. Калі на сцэнах Захаду пераважае расказ і паказ, разлічаныя на абстрактнасць успрыняцця, то ў аснове ігры нашых акцёраў—псіхалагічнае пражыванне ролі, вялікая эмацыянальнасць. Разам з тым нам не чужая эстэтыка заходняга тэатра, развіваем асацыятыўнасць мыслення публікі, працуем у рэчышчы ўсемагчымых прыдумак з лялькай. Тэатры Захаду і сацыялістычных краін народжаны рознымі культурнымі сістэмамі, але для ўсіх нас тыповая тэндэнцыя шукаць аптымальныя суадносіны акцёра і лялькі, сімволікі і жывой канкрэтнасці.

Дзяржаўны тэатр лялек БССР атрымаў запрашэнне зрабіць гастрольныя турнэ па гарадах ФРГ.

Н. ЗЛАТКОЎСКАЯ.



**У раённым аглядзе-конкурсе па праграме II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці прыняў удзел фальклорны калектыў калгаса« Радзіма Якуба Коласа» Стаўбцоўскага раёна. У яго рэпертуары — самабытныя карагодныя і абрадавыя песні. Цяпер сельскія артысты-аматары рыхтуюць у арыгінальнай пастаноўцы купалаўскую «Паўлінку».**
**НА ЗДЫМКУ: фальклорны калектыў калгаса.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**







**Для міжнароднага кірмашу 1987 года ў Познані (ПНР) Беларускі рэспубліканскі Дом мадэлей падрыхтаваў і паказаў спецыялістам калекцыю, якая складаецца з 100 мадэлей прыгожага адзення. Мадэльеры імкнуліся ўлічыць усю разнастайнасць новых форм, прапорцый, сілуэтаў у залежнасці ад спецыфікі сезона.**
**Мадэлі выкананы з ільну і бавоўны. Гэта своеасаблівая творчая справаздача мастакоў - мадэльераў перспектыўнай групы мадэліравання Ніны Астапенкі, Надзеі Прышчэп, Вольгі Ламакі, Таццяны Церахавай і Рыты Сычовай. Маючы адбыцца паказ мадэлей у Польскай Народнай Рэспубліцы — гэта не толькі знаёмства з беларускай модай, у Познані будуць вывучацца пытанні магчымасці экспартнага продажу.**
**НА ЗДЫМКАХ: у час паказу.**
**Фота У. МЯЖЭВІЧА і У. ШУБЫ.**

*МАСКІРОЎКА, ПАПЯРЭДЖАННЕ—КАБ ВЫЖЫЦЬ!*

# НЕВІДЗІМКІ Ў ПОЛІ, ЛЕСЕ, НА ЛУЗЕ

Хто з нас летам не любаваўся яркімі, прыгожымі матылькамі, бліскучымі чырвонымі, чорнымі, жоўтымі жукамі, дзівоснай расфарбоўкай пер'я птушак! Быццам бы ўсіх іх размаляваў чароўным пэндзлем мастак. Міжволі ўзнікае пытанне: чаму адны віды афарбаваны ярка, кідка, іх адразу заўважаеш, а міма іншых (шэрых, бурых, зялёных) ідзеш і не бачыш, што яны побач.

Вучоныя разабраліся ў гэтых пытаннях, на многія з іх знайшлі адказы і далі навуковыя тлумачэнні. Было ўведзена паняцце «мімікрыя» — ахоўнае прыстасаванне жывёл, іх падабенства да прадметаў навакольнага асяроддзя, што дапамагае ім пазбегнуць нападу драпежнікаў, дапамагае выжыць.

У прыродзе ў жывёл назіраецца ахоўная афарбоўка, форма цела ці здольнасць «прыбрацца», прыняць выгляд ядавітай ці неядомай жывёліны. У прыродзе забяспечваюць абарону жывёл тры асноўныя тыпы прыстасавальнай афарбоўкі і формы: маскіроўка, папярэджанне і імітаванне. Яны ўзніклі ў выніку доўгага працэсу эвалюцыі, таму што натуральны адбор прымушае кожны від прыстасоўвацца да навакольных умоў.

**МАСКІРОЎКА**, як ужо было сказана, гэта ахоўная афарбоўка ці форма цела, якая дае жывёлам жыццёва неабходную магчымасць заставацца літаральна нябачнымі ў навакольным асяроддзі. У Беларусі мноства драўняных жукоў і начных матылёў маюць афарбоўку пад колер і рысунак кары дрэў, лішайнікаў, якія з'яўляюцца для насякомых ідэальным прытулкам днём. Да таго ж звычка заставацца пры гэтым поўнасцю нерухомымі ўзмацняе эфектыўнасць гэтай маскіровачнай афарбоўкі. У матыля-аксамітніка настолькі цудоўная ахоўная афарбоўка, што міжволі здзіўляешся, калі зусім, здавалася б, з пустога месца ён узлятае. А вось ляціць матылёк сіні стужачнік. У руху ў яго добра відаць ніжнія сінія крылцы. І раптам ён знікае на нашых вачах. Аказваецца, ён сеў на ствол бліжэйшага дрэва і верхнімі крылцамі, падобнымі да кары, прыкрыў ніжнія. Нямала іншых насякомых маюць зялёную, жоўтую, бурую афарбоўку, таму, знаходзячыся сярод расліннасці, яны амаль не бачныя.

Жабы, якія жывуц[illegible] тэрыторыі Беларусі, усе [illegible] зелены ахоўнай афарбоўкай. Найбольш цікавая з іх — невялікая драўняная жаба-квакша. Быццам лакіраваная спінка квакшы афарбавана ў зялён[illegible] лер лістоты. Але колер [illegible] можа мяняцца разам са змяненнем фарбаў вакол яе. Калі квакша сядзіць на патрэсканай кары дрэва, яе колер скуры бывае ад шаравата-бэзавага да карычневага адцення, а іншы раз становіцца нават белым, таму выявіць яе вельмі цяжка.

Чэмпіёнам сярод птушак па маскіроўцы сваіх яек з'яўляецца зязюля. Яна падкідвае іх у гнёзды 150 відаў птушак: сітавак, пеначак, заранак, шэрых валасянак, чарацянак, саракушаў, завірушак, мухаловак і нават дзятлаў. Таму ў працэсе эвалюцыі ў зязюль развіліся дзіўныя здольнасці: іх яйкі па афарбоўцы і велічыні робяцца падобнымі да яек тых птушак, у гнёзды якіх падкідваюцца.

**ПАПЯРЭДЖАННЕ.** У прыродзе сустракаецца вялікая колькасць жывых істот не толькі з маскіруючай афарбоўкай, але і з яркай, папераджальнай. Звычайна гэтыя насякомыя не хаваюцца. Мэта такой афарбоўкі — папярэдзіць ворага, прымусіць яго запомніць і затым лёгка пазнаваць даную істоту, якая звычайна вельмі ядавітая. Такія насякомыя актыўныя пры дзённым святле, яны не шукаюць, куды схавацца, іх рухі павольныя, упэўненыя. Драпежнік, упершыню сустрэўшыся з імі, абавязкова паспрабуе напасці, у выніку чаго ў яго выпрацоўваецца рэфлекс страху і агіды. Усе ведаюць жучкоў — божых каровак. Яны прыкметныя сваім яркім колерам. Вазьміце ў руку гэтага жучка. На месцах сучлянення яго ножак з'яўляюцца кропелькі жоўтай вадкасці з рэзкім пахам. Божыя кароўкі — ядавітыя. На лугах і лясных палянах сустракаюцца матылькі-пястранкі. У іх цёмныя крылцы з ярка-чырвонымі плямамі, і яны добра відаць, калі садзяцца на кветкі. Птушкі, аднойчы схапіўшы ядавітага «прыгажуна», другі раз не будуць чапаць яго.

У Беларусі часта сустракаецца жаба — чырванапузая жарлянка. Пры небяспецы яна выгінаецца дугой, закідваючы ўверх галаву, выварочваючы лапкі так, што робяцца бачнымі яе чырвона-аранжавыя бакі. Вучоныя знайшлі, што яд жарлянкі, уведзены млекакормячым ці птушкам, аслабляе ў іх дыханне і выклікае параліч мышцаў.

**ПЕРАЙМАННЕ.** Папераджальная афарбоўка настолькі эфектыўная ў прыродзе, што шматлікія неядавітыя насякомыя, жывёлы перанялі яе. У выніку драпежнікі не нападаюць на іх, бо таксама лічаць небяспечнымі. Тыя, каго джалілі пчолы ці восы, адразу насцярожваюцца, ледзь пачуюць гудзенне і ўбачаць чорна-жоўтыя палоскі. Людзі, як і жывёлы, на вопыце вучацца пазбягаць істот, якія маюць небяспечныя ці непрыемныя ахоўныя ўласцівасці. Вучоныя ўстанавілі, што розныя мухі, матылі, жукі ў працэсе эвалюцыі набылі дзіўнае падабенства з восамі, пчоламі, шэршнямі, прычым пры поўнай сваёй бяскрыўднасці яны не толькі абзавяліся чорна-жоўтымі меткамі, але і злосна гудуць у палёце, як восы, асабліва, калі іх патрывожаць.

Асобныя віды саранчовых насякомых імітуюць свежую траўку, адмершыя сцябліны, скошаную траву. Папуляцыя трапічных багамолаў выпрацавала яшчэ больш пераканаўчыя прыкметы сухога лісця, уключаючы шчарбіны па краях крылаў і плямы, падобныя да дзірак, прагрызеных вусенямі. І крылцы рухаюцца так, нібыта гайдаецца лісце на ветрыку. У прыродзе ёсць насякомыя, падобныя да галінак, гэта конікі сцеблападобныя. Яны афарбаваны ў зялёны ці карычневы колер адпаведна колеру галінак, на якія звычайна садзяцца.

Вось мы і пазнаёміліся з трыма асноўнымі катэгорыямі прыстасавальнай афарбоўкі, кожная з якіх нясе сваю строга пэўную функцыю (маскіроўка, папярэджанне і пераймане). У доўгім працэсе эвалюцыйнага развіцця, паралельна з мімікрыяй ішло і ўдасканальванне паводзін разнастайных прадстаўнікоў свету жывёл у складанай і цяжкай барацьбе за сваё існаванне.

**Аляксандр КУРСКОЎ,**
**кандыдат біялагічных навук.**

## СПОРТ

Упэўнена ўзялі старт у сёлетнім сезоне лёгкаатлеты. З усіх куткоў планеты паступаюць паведамленні аб высокіх выніках. Асабліва парадаваў савецкі спартсмен Роберт Эміян. Яго вынік па скачках у даўжыню—8 метраў 86 сантыметраў—новы рэкор[illegible] Еўропы.

[illegible]а выступілі ў першых міжнародных спаборніцтвах і беларускія атлеты. Так, на матчы зборных Італія—СССР у Турыне ў бар'ерным бегу на 110 метраў першынстваваў [illegible]р Казанаў. Не было роў[illegible]х па кіданню кап'я Наталлі Шыкаленка.

У гэты час яшчэ адна група беларускіх лёгкаатлетаў прыняла ўдзел у традыцыйных міжнародных спаборніцтвах на прызы Рыжскага гарвыканкома. Тут поспеху дамагліся Т. Купрыянава (бег на 400 метраў), Н. Талецкі (бег на 400 метраў з бар'ерамі), В. Алісевіч (кіданне молата) і А. Кныш (бег на 200 метраў).

Цяпер мацнейшыя беларускія атлеты прымуць удзел у міжнародных спаборніцтвах на прыз братоў Знаменскіх.

Чым яшчэ парадавалі спартсмены нашай рэспублікі?

Ігар Сумнікаў з Оршы пасля ўдалага выступлення на дарогах Францыі, прыняў удзел у шматдзённай велагонцы па Англіі. З трынаццаці этапаў ён на пяці фінішаваў першым.

Практычна ўсіх мацнейшых стралкоў сабраў міжнародны турнір у ГДР. У лік пераможцаў увайшоў і Ігар Басінскі з Гродна.

На першынстве свету і Еўропы сярод юніёраў па цяжкай атлетыцы, якое прайшло ў Бялградзе, у вагавай катэгорыі да 90 кілаграмаў сярэбраны медаль дастаўся Д. Сіняку з Барысава.

Чарговы матч першынства Еўропы па футболу правяла зборная СССР. У Нарвегіі яна перамагла каманду гаспадароў з лікам 1 : 0 і ўпэўнена ўзначальвае турнірную табліцу ў сваёй групе. Сярод лепшых ігракоў апошняй сустрэчы можна назваць і мінскага дынамаўца Сяргея Алейнікава.



**Зелянушка.** **Фота М. ШАРАЯ.**



**НАШ АДРАС:**
**МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 921